# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 26 (1676) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 26 ЧЭРВЕНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.

## СЯРГЕЙ ЛУКАШУК І ЯГО ВЫХАВАНЦЫ

Пад такім лозунгам адбыўся 25 красавіка г.г. у зале Бельскага дома культуры юбілейны вечар, прысвечаны яго 25-гадовай працы ў аматарскім мастацкім руху.

Музычныя зацікаўленні ў Сяргея выявіліся ўжо ў чацвёртым класе падставовай школы, калі ён навучыўся іграць на акардэоне і выступаў на школьных урачыстасцях. Будучы вучнем Педагагічнага ліцэя ў Бельску, заснаваў ён з сябрамі інструментальны калектыў, іграў таксама ў капэле школьнага калектыву песні і танца „Падляшша“. У гадах 1966-70, будучы кіраўніком школы ў Галадах, стварыў ён школьны вакальны калектыў, які выступаў у асяроддзі. У гадах 1972-74 працаваў у Пачатковай школе № 3 у Бельску, дзе кіраваў школьным хорам і калектывам акардэаністаў. Ад 1967 года супрацоўнічае з вядомым хорам „Васілёчкі“, спачатку як акампаніятар, а ад студзеня 1970 года як дырыжор і мастацкі кіраўнік. Ад студзеня 1975 года Сяргей Лукашук працуе дырэктарам Бельскага дома культуры і як настаўнік музычнага выхавання кіруе мастацкімі калектывамі ў Пачатковай школе № 3 і ў Беларускім ліцэі імя Б. Тарашкевіча. Пад яго мастацкім кіраў-

(Праця на стар. 3)



Сяргей Лукашук

## ДЭЛЕГАЦЫЯ БССР НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

## АБНАДЗЕЙВАЮЧАЯ СУСТРЭЧА

Партыйная дэлегацыя Камуністычнай партыі Беларусі, якая па запрашэнню Цэнтральнага камітэта ПАРП пад канец мая і на пачатку чэрвеня прабывала ў Польшчы, 1 і 2 чэрвеня г.г. наведала таксама Беласточчыну. Госці пабывалі ў Беластоку, Бельску, Гайнаўцы і Белавежы.

У складзе дэлегацыі былі: **Валерый Андрэевіч Пячэннікаў** — сакратар ЦК КПБ па ідэалагічных пытаннях, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, **Вячаслаў Францавіч Кебіч** — член палітбюро КПБ, намеснік старшыні Савета Міністраў і старшыня Дзяржплана БССР, **Аляксандр Мікалаевіч Грахоўскі** — старшыня Гомельскага аблвыканкома, **Уладзімір Андрэевіч Заломай** — сакратар па аграрна-прамысловых справах Брэсцкага абкома КПБ і **Пётр Кузьміч Краўчанка** — сакратар па ідэалагічных пытаннях Мінскага гаркома КПБ.

Спадарожнічалі ім: **Мацей Красіцкі і Зыгмунт Худзік**, — прадстаўнікі замежнага аддзела ЦК ПАРП.

У час пабыўкі дэлегацыі на Беласточчыне часта чуліся словы: **„першая сустрэча“, „гістарычная сустрэча“**. Сапраўды, у гісторыі польска-савецкіх міжнародных зносін першы раз здарылася, каб афіцыйная партыйная дэлегацыя на такім высокім узроўні зацікавілася жыццём і справамі беларусаў у Польшчы. Вядома, гэта вынік перабудовы і яўнасці — асноўнага курсу гарбачоўскай палітыкі, на ўраджайнай глебе якога наступае і нацыянальнае адраджэнне ўсіх народаў, у тым ліку і беларусаў. **Зацікаўленне праблемамі беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы з боку такой рэпрэзэнтатыўнай дэлегацыі БССР з'яўляецца афіцыйным прызнаннем таго даўно вядомага факту, што беларусы спакон вякоў жывуць па абодвух берагах Нёмана і Буга.**

1 чэрвеня дэлегацыя прыняла ўдзел у пасяджэнні сакратарыята Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку. Гаворка ішла ў першую чаргу аб прыгранічным супрацоўніцтве паміж Беластоцкім ваяводствам і Гродзенскай вобласцю.

Прадаўжэннем гутаркі аб прыгранічным супрацоўніцтве быў візіт беларускай дэлегацыі на Беластоцкім прадпрыемстве

(Працяг на стар. 6)




Можна пазайздросціць энтузіязму і энергіі кіраўнікоў і актывістаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку і яго аддзелаў. І ёсць шмат чаго пазайздросціць у іх. На невялікім ускрайку зямлі з беларускім насельніцтвам выдаецца штотыднёвік „Ніва“, працуюць два беларускія ліцэі, ёсць шмат беларускіх школ ніжэйшых ступеняў. Калектывы мастацкай самадзейнасці з Беластока, Гарадка, Кураша і іншых мясцовасцей маглі б здзівіць нашых гледачоў, аматараў беларускай песні, багаццем і мастацкім узроўнем сваіх праграм. Шырока разгарнулася будаўніцтва беларускага этнаграфічнага музея ў Гайнаўцы, фонд пабудовы якога створаны з добраахвотных узно-

саў саміх жыхароў Беласточчыны. Як паведамляе „Ніва“, наступаюць ахвяраванні і ад прыхільнікаў беларушчыны з-за мяжы. Пры аказіі я хацеў бы выказаць шкадаванне, што мы не маем магчымасці (а можа проста не ведаем, як гэта зрабіць?) унесці хоць нейкі ўклад у фонд пабудовы музея.




Прызнаюся, што калі я бяру ў рукі „Ніву“, то адразу заглядваю на перадапошнюю старонку і чытаю прозвішчы людзей, якія ахвяруюць свае залатоўкі на такую важную справу. І ўспамінаю, што быў калісьці беларускі музей у Замосці на Міншчыне, але першая сусветная вайна і тыя буры, што пранесліся над маёнткам яго гаспадара Аляксандра Ельскага, не пакінулі і

следу ад музея. Сам жа ён памёр у 1916 г.

Ствараўся музей і ў Вільні. У 1916 г. выдатны паэт В. Я. Брусаў з вялікім здзіўленнем разглядаў яго экспанаты, у тым ліку і першыя друкаваныя кнігі на царкоўна-славянскай мове. З гэтым музеем распраўлялася другая сусветная завіруха.

Польскі народ па праву ганарыцца бібліятэкамі імя Асалінскіх, імя Рачынскіх (названых так у гонар іх заснавальнікаў). Упрыгожаннем Масквы з'яўляецца Траццякоўская галерэя. Яна таксама носіць імя яе заснавальніка. А вось беларускім музеям не пашанцавала, хоць у Беларусі даўным-даўно разумелі сапраўдную цану такога роду ўстановам, усведамлялі іх значэнне ў справе развіцця культуры, пашырэння добрых звычаяў і патрыятычнага выхавання народа. Яшчэ ж калісьці Францішак Скарына славіў Александрыйскае кнігасховішча цара Пталамея, які больш жадаў

(Працяг на стар. 4)

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# ДЗЕНЬ ДЗІЦЯЦІ Ў РЫБАЛАХ

Той сонечны святочны дзень пачаўся ў Рыбалах спартыўнай размінкай. Трэба было набрацца сіл на ўвесь дзень конкурсаў, гульняў, выступленняў. З самай раніцы спартыўная пляцоўка ля школы запоўнілася дзецьмі. Гулялі ў мяч, бегалі, скакалі. А каля гадзіны 11-ай разнеслася вестка, што прыехалі госці.

Хутка сабраліся ў вясковым доме культуры. Там ужо на сцэне вісеў лозунг „Вітаем гасцей з Сабалева". А госці з Сабалева — гэта вучні адной з падбеластоцкіх школ. У рамках сяброўства і супрацоўніцтва школ, а таксама супольнага ўдзелу ў антыалкагольным конкурсе, дзеці з Сабалева прывезлі ў Рыбалы п'еску аб шкоднасці алкаголю. Конкурс гэты пад лозунгам „Маладосць — цвярозасць" аб'яўлены Ваяводскім грамадскім антыалкагольным камітэтам супольна з Куратарыяй асветы і выхавання для дзяцей пачатковых школ.

Пасля першых слоў прывітання сцэна была аддадзена гасцям і замянілася ў судовую залу, дзе адбыўся працэс над маладым чалавекам, які ў нецвярозасці і хуліганстве падпаліў хату суседа, у выніку чаго згінуў чалавек. Сцэнка выклікала жывую рэакцыю залы: усё было зразумела і ясна.

Затым дзеці з Рыбалаў далі гасцям канцэрт беларускай песні. Сярод удзельнікаў выступіў лаўрэат першай узнагароды Цэнтральнага агляду беларускай песні Адам Жарначук, вучань з Рыбалаў.

Як толькі скончыўся канцэрт, дзецям падалі пачастунак: малочны кактэйль і розныя салодкія прысмакі. Гэта вясковы філіял ГС-аўскага асяродка сучаснай гаспадыні, якім кіруе ў Рыбалах Ніна Нікалаюк, зрабіў дзецям свой падарунак.



*Журы конкурсу „Маладосць — цвярозасць".*


*Прыехаўшыя ў Рыбалы госці з Сабалева — вучні сёмага класа з настаўніцай Эльжбетай Лыжкевіч.*

А потым надышоў час конкурсу. Дзеці хуценька выбеглі на школьную спартыўную пляцоўку, падзяліліся на каманды. Спаборнічалі паміж сабой суседнія вёскі — шэсць каманд: Канюкі, Паўлы, Цялушкі, Давідавічы сельскагаспадарчая спулдзельня Рыбалы і вёска Рыбалы.

У камісіі конкурсу — настаўніцы Ніна Харытонюк, Лідзія Кучынская і бібліятэкар з вясковага Дома культуры Ніна Тамашук. Вялі конкурс кіраўнік дома культуры Лідзія Мартынюк, кіраўнік клуба ў Паўлах Лідзія Андрэюк і настаўніца Вера Кандрацюк. Каманды на змену адказвалі на пытанні па тэме шкоднасці алкаголю на малады арганізм і спаборнічалі ў розных спартыўных гульнях. Аб выніках дружын інфармавала табліца.

(Праця́г на стар. 10)


*На заканчэнне свята Дзіцяці ў Рыбалах кожны вучань атрымаў па вялізнай порцыі лёду.*


*Каманда з Давідавіч.*

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Уладзімір Мацвеенка

### ЮЛЬКА І КАШУЛЬКА

Мы з сястрой каля акна
Кормім маннай кашай Юльку...
Есці вучыцца яна:
Лыжку ў рот, дзве
— на кашульку.
Просіць есці наша Юлька:
Накармілі ж мы кашульку.

### МАСТАЧКА

Звера я намалявала
І малюнак паказала...
— Гэта зубр? —
Смяецца тата.
— Тузік наш? —
Спытала Ната.
— Мышка? —
Кажа меншы брат. —
Яе хвосцік акурат...
Разгубілася я трошкі:
— Не, я малявала
Кошку...

Ніна Галіноўская

### ЛЯСНАЯ КАЗКА

У лесе схавалася казка.
На елцы яна ці сасне.
Напэўна, зялёная маска
Хавае яе ад мяне.
І доўга я казку шукаю —
Нідзе непаседы няма.
Вось зараз вазьму пагукаю —
Адклікнецца, можа, яна.
Стаю я пад гонкай сасною,
Крычу:
— Дзе ты, казка, а-у-у!
Яна паўтарае за мною:
— А-у-у!
— Я насустрач бягу-у!
Імчацца і дрэвы, і травы —
Дзівосны зялёны экспрэс.
Змяшалася казка і ява...
Ты — казачны замак,
мой лес!

### ДЗЕ НАЧУЕ ДЗЕНЬ

Раскажы мне, светлы дзень,
Ноччу ты бываеш дзе?
Дзе твой ложак і падушка?
Мне шапні хутчэй на вушка.
Расказаць не хочаш, дзень.
Ты такі маўчун, як цень.

Здагадаўся я і сам:
Спіш ты з сонейкам вунь там,
За рачулкай, за ўзгоркам.
Вось і ўся наша гаворка.

### ЗЛОСНЫЯ ЖАРТЫ

Звоніць вожыку мядзведзь:
— Да мяне хутчэй прыедзь.
Трэба дзецям шыць футболкі,
А ў мяне няма іголкі.
У цябе вазьму адну,
Нітку рыжую ўцягну...

Адказаў мядзведзю вожык:
— А табе не трэба ножык,
Каб падрэзаць твой язык?
Злосна жартаваць прывык.

### РУЖЫ РАСЦВІЛІ

Матылёчак пырхае,
Пчолы загулі,
Мы глядзім, не дыхаем —
Ружы расцвілі.

(Працяг са стар. 9)

## ДЗЕНЬ ДЗІЦЯЦІ Ў РЫБАЛАХ

Калі апаў жар барацьбы і пыл спаборніцтваў, камісія аб'явіла вынікі конкурсу. І месца заняла каманда з Канюкоў, ІІ — з Паўлаў, ІІІ — са спулдзельні ў Рыбалах, IV месца падзялілі Рыбалы і Давідавічы, V месца — Цялушкі.

Як толькі скончылася ўрачыстае ўручэнне дыпломаў і ўзнагарод пераможцам конкурсу, на школьную пляцоўку заехала машына старшыні бацькоўскага камітэта Пятра Мартынюка. З кабіны выскачыў сам дырэктар школы Мікалай Смалеўскі і запрасіў дзяцей на лёды. Усе, нават наймалодшыя дзеці, атрымалі па вялікай порцыі марожанага, а пераможцы конкурсу, калі мелі ахвоту, нават па дзве порцыі.

Дзень дзіцяці закончыўся дыскатэкай у вясковым доме культуры.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



*Пераможцы конкурсаў і спартыўных гульняў.*

## МАЛЮЕМ БЕЛАРУСКІЯ ЎЗОРЫ

*Пачаліся канікулы. Цяпер ёсць у нас час на забавы і заняткі па густу. Паспрабуйце перамаляваць гэты ўзор: шэры колер — чырвоным алоўкам, а чорны — чорным. У вас выйдзе прыгожая кветачка, якая можа быць цікавым дэкарацыйным арнаментам для ўпрыгожання класа, а старэйшыя дзяўчаткі могуць спрабаваць вышыць гэты ўзор крыжыкам на сурвэтку, падушачку ці нават сабе на блузачку. Спрабуйце. Хто ўмее? Напішыце ў „Зорку“.*



## Вясёлы куточак

### ЦІ МАЕШ, ДЗЕДКА, ЗУБЫ?

— Ці маеш, дзедка, зубы? —
Пытае ўнучак-коцік.
— Толькі адзін, мой любы,
Астаўся ў маім роце.

— Дык гэта ж ёсць уцеха, —
Сказаў унук Мікола. —
Ты прыхавай арэхі,
Пакуль прыйду са школы.

### НОС УЛАСНЫ МАЕШ, ДЗЕДКА

Выйшаў дзед з унукам-мальцам,
Разам сесці давялося.
Калупае ўнучак пальцам
У сваім маленькім носе.

— Мо пазычыць табе крыху
Пальцаў, мілы малалетка?
— Не, — азваўся ўнучак ціха, —
Нос уласны маеш дзедка.

### ДОЎГІ ЯЗЫК

Цётка прыехала ў госці
Да роднай сястры ў Новы год.
Да цёткі звярнуўся Косцік:
— Ці можаш разявіць мне рот?

— Бачу, сынок, што таксама
Паджартаваць ты прывык.
— Не, цётка, сказала мама,
Што ты маеш доўгі язык.

### ДЗЯКУЙ БОГУ

— Падыйдзі сюды,
Сыночак Валодзя.
Што кажуць тады,
Калі госць выходзіць?

Сваёй цётцы ён,
Ужо ля парога,
Сказаў наўздагон:
— Дзякуй Богу.

### Я ЗУСІМ НЕ НАРАДЗІЎСЯ

Запыталіся малога:
— Калі нарадзіўся, дзетка?
Глянуў ён надзвычай строга
І адказ даў раптам гэткі:

— Я не нарадзіўся цалкам,
Бо не памятаю маці.
Сіратой расту я змалку,
Мачаха заўсёды ў хаце.

### НАЙЛЕПШ ЛЕЖАЧЫ ПАЕСЦІ

Гультая сустрэлі дзесьці,
Пачалі пытаць:
— Скажы нам, ці лепш паесці,
Ці лепш паляжаць?

— Сэнс жыцця ў лагічным
змесце,
Вам магу адкрыць:
Найлепш лежачы паесці,
Потым адпачыць.

### МАЛАКО СТАЦЬ ЗА МЯСАМ

Пайшла матуля ў магазін
Купіць прадукты раніцою.
Прачнуўшыся, маленькі сын
Заліўся горкаю слязою.

— Не будзь жа плаксаю
такой, —
Хоча суцішыць брата Ніна. —
Твае ў чарзе там малако
Стаць напэўна за вяндлінай.

**Віктар Швед**

## Вучнёўская творчасць

### НА КОНКУРС АБ ВЯСНЕ

Мне гэты конкурс падабаецца. Ён цікавы. Вясна — гэта прыгожая пара года. Аб вясне можна вельмі многа пісаць.

Пры дарозе, якой я хаджу ў школу, на дрэвах зазелянелі лісточкі. Сады пакрыліся снежна-белымі кветкамі. Пры дамах, у агародчыках, расцвілі каляровыя веснавыя кветкі. Людзі выйшлі працаваць на палях. Жанчыны ўпраўляюцца ў агародах.

На двары кожны дзень мацней прыгравае сонца. На лугах пачала зелянець і расці трава. Птушкі вярнуліся з выраю. Кожны дзень чуваць іх галасістыя спевы. Ластаўкі будуюць новыя гнёзды. Будуць выседжваць маладых. Над кветкамі кружаць каляровыя і вясёлыя матылі.

Я найбольш люблю вясну і лета.

**Іра Капанюк, вуч. 7 кл.**
**Трасцянка**

### АБ „НІВЕ“

„Ніва“ — газета родная наша,
„Зорка“ — для кожнага дзіцяці.
У ёй шмат казак і загадак,
У „Ніве“ — рэцэпты
На смачныя стравы,
Яна расказвае пра людзей
У нас і ў Беларусі,
Друкуе песні
„Аб Галі“ і аб Марусі...
Усё знойдзеце там,
Праўду кажу вам!

**Аня Сачко, 8 кл.**
**Ласінка**

## АДГАДАНКА




Якую з намаляваных фігур (1, 2 ці 3) трэба ўставіць на месца пытальніка? Падумай лагічна!

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 7, кв. 22. Саша Сцепаненка. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 86, к. 1, кв. 48. Віталік Александровіч. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 90-А, кв. 20. Каця Скорык. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 8, кв. 71. Іра Свістун. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 90-А, кв. 2. Аня Сакольчык. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 3-А, кв. 55. Света Гупаловіч. 3 клас.

* * *

СССР, 677902, Якутская АССР, п. Жатай, Толмачёву Жене (4 клас) и Оле (2 клас).

* * *

СССР, 163019, г. Архангельск — 19, ул. 8 Марта, д. 12а, кв. 1. Дорофеевой Люде. 4 клас.

* * *

БССР, 222395, Мінская вобл., Мядзельскі раён, Рыбкамбінат „Нарач“. Скурацёнак Олі. 8 клас

* * *

БССР, 220036 г. Мінск-36, вул. Каржа, 18, кв. 12. Павел Баянаў. 2 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 168, к. 2, кв. 52. Таня Белавусава. 5 клас.

* * *

БССР, 220057, г. Мінск-57, вул. Гуцьева, 18, кв. 76. Павел Андрэеў. 4 клас.


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1 „Зорка“

З суседскага агародчыка

## ПАДВОДНЫЯ ТАЯМНІЦЫ

Навуковая экспедыцыя ў звышглыбінным батыскафе апускалася на дно марское.

— Глядзіце, якое стварэнне! Пра такое яшчэ ніхто не ведае! — закрычаў радасна аспірант.

— Не па нашаму профілю, — астудзіў яго прафесар.

— Таварыш прафесар! Бутэлька! Можа, там у ёй якая таямніца? Можа, яна з мінулага стагоддзя?.. — не адрываўся ад ілюмінатара няўрымслівы малады вучоны.

— На даследаванне пабочных аб'ектаў у нас няма фондаў, — буркнуў незадаволена прафесар. — І наогул, мой юны калега, набярыцеся цярпення і чакайце. Мы павінны адкрыць з вамі тое, што запланавана...

Яны прабоўталіся на глыбіні тыдзень, два, а потым і месяц — запланаванага адкрыцця не адбылося.

Нарэшце, усплылі на паверхню, стомленыя, прыціхлыя. Атрымалі зарплату, напісалі тоўстыя справаздачы, а адпачыўшы, зноў заселі за распрацоўку плана наступнай падводнай экспедыцыі.

**Уладзімір Волкаў**

## ДАДУМАЛАСЯ

— А мы, мама, ездзілі з Міколай на мора. Толькі што вярнуліся. Насмажыліся ўволю! Сонца аж паліць, пясок гарачы — бы на патэльні, а вада — сапраўдны вар. Сем патоў з нас зышло, пакуль адпачывалі. Прыгажосць!

— Ну ї добра, дачуся, што вам спадабалася. А цяпер пагаварыце трохі ды пойдзем на агарод — паможаце мне бульбу капаць.

— Тфу, мама! Больш нічога не прыдумала? Гэта каб у такую спёку ды працаваць?!



Водны спорт — гэта ж казка.



Адысей „белавежскі"".

## ПРЫКМЕТА

— Увечары, мабыць, будзе бура! — кажа Кастусь, ідучы на работу.

— Калі ты вернешся раней, ніж я ляту спаць, то буры не будзе, — супакоіла жонка.

## ГІГІЕНА

— Алесь, чаго ты п'еш так многа вады?

— Я з'еў яблык.

— Ну дык што?

— Памыць яго забыўся.

## НЕ ПАСЛУХАЛІ

Ноч, а Васілёк ды Іванка буяняць.

— Зараз жа лягайце у ложак! І каб мне не дыхалі! — накрычала бабуля.

Малышы прыціхлі. А праз нейкі час у дзверы прасунуліся дзве галоўкі:

— Бабуля, а мы дыхаем.

ГУМАР З БАРАДОЮ

## ПАМІЖ НАРАЧОНЫХ

— Бойся Бога, Уладак, за тыдзень наша вяселле, а ты да карчмы ідзеш!

— Нічога, не бойся! Вярнуся хутчэй, як за тыдзень.



Усё жыццё мяняў маскі, намагаючыся знайсці сваё творчае аблічча.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У час паездкі ў Шатландыю турыст наведаў возера Лох Нес спадзяючыся ўбачыць славутную падвару.

— Калі страшыдла з'яўляецца? — спытаў ён у гіда.

— Звычайна пасля пятай шклянкі віскі, — быў адказ.

— ✻ —

Лодачная станцыя. Ратаўнік на беразе крычыць у мегафон:

— Лодка нумар 99! Вяслуйце да берага. Ваш час ужо кончыўся.

Праходзіць некалькі мінут, але лодка не вяртаецца.

— Лодка нумар 99! Неадкладна вярніцеся да прычала, інакш з вас возьмуць дадатковую плату!

— Штосьці тут не так, шэф, — гаворыць хлапчук-памочнік. — У нас на станцыі ўсяго толькі 75 лодак, адкуль быць нумару 99?

Застыўшы на імгненне, ратаўнік кідаецца на край берага.

— Лодка нумар 66! — крычыць ён. — У вас там што, якія-небудзь непрыемнасці?

— ✻ —

У домакіраўніцтве.

— Вы інжынер?

— Я.

— У нас у кватэры з усіх кранаў цячэ вада...

— Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:

— А што ж, па-вашаму, павінна цячы?

З „Весніка Задрыпоніі"

## ПАГОДА

Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў Задрыпгідраметэацэнтры, у ліпені на ўсёй тэрыторыі Задрыпоніі маразоў, завеяў, а таксама галалёдзіцы — не прадбачаецца.

Удзень — пераважна сонечна, уначы — месцамі месячна.

## ДЛЯ ДОМУ, ДЛЯ СЯМ'І

Правы чаравік трэба насіць на правай назе, а левы — на левай.

Супы, юшку і іншыя вадкія стравы трэба есці лыжкай, а не відэльцам.



— Ён марыў правесці водпуск на высьпе!

# Курʼёзы

## БЕРАНЖЭ

Альфрэд Мюсэ прасіў Беранжэ адклікнуцца на яго першыя вершы. Прачытаўшы іх, Беранжэ напісаў паэту:

„У вас у канюшні цудоўныя коні, але вы не ўмееце імі кіраваць. Вядома, прыдзе час, калі вы навучыцеся гэтаму мастацтву; толькі, на жаль, часта бывае так, што коні здыхаюць, пакуль уладальнік навучыцца кіраваць імі".

## ВАЛЬТЭР

Неяк за абедам двое фанабэрлівых гасцей, маючы намер пасмяяцца з Вальтэра, запыталіся ў яго, як правільна сказаць: „Дайце нам піць" ці „Прынясіце нам піць".

— Для вас не падыходзіць ні тое, ні другое, — адказаў Вальтэр. — Вы павінны гаварыць: „Павядзіце нас на вадапой".

## МАРУА

Пераклад — гэта злачынства несумленнага чалавека, які асмельваецца замяніць адну мову другой, не ведаючы ні той, ні гэтай.




Не плюй у калодзеж, нават, калі ты чыста-плюй.